*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2018, № 6(28). Чэрвень

## Наш горад 60 гадоў таму



*Вуліца Ружанская ў Слоніме, участак на плошчы Леніна, 1958 год.*

*Працяг на ст. 3.*

## Слонімскі футбол у міжваенны час (1920-1930-я гады)

“СК” працягвае публікаваць нарыс пра гісторыю слонімскага футбола ў 1920-1930-я гады, “за польскім часам”. У папярэдніх частках* мы распавялі пра кароткі ўзлёт слонімскай каманды WKS 79 pp Słonim (Вайсковы спартыўны клуб 79-га пяхотнага палка). Клуб быў заснаваны 24 чэрвеня 1921 года і адразу спецыялізаваўся на футболе. Таму гэтую дату можна лічыць за час заснавання слонімскага футбола (да імавернага выяўлення матэрыялаў пра ранейшыя падзеі). WKS у 1923 годзе паўдзельнічаў у першынстве Віленскай акругі ў “клясе Б” і ледзь не прабіўся ў “клясу А”.

*Працяг на ст. 6.*




*Футбольная каманда “Яўрэйскі спартыўны клуб, Слонім”, 1927 год.*

ХРОНІКА

# Кветкі паўстанцам у Мілавідах

У Мілавідах Баранавіцкага раёна 4 чэрвеня ўшанавалі паўстанцаў, якія змагаліся супраць Расійскай імперыі. Адбылося гэта роўна 155 гадоў таму.

З гэтай нагоды ў Мілавіды завіталі сябры Слонімскага згуртавання дэмакратычных сіл, Партыі БНФ і руху "За Свабоду" з Мінску. Прысутныя ў гонар паўстанцаў узнялі бел-чырвона-белыя сцягі і ўсклалі кветкі да помніка.



# Археалагічныя раскопкі каля вёскі Шылавічы

У чэрвені на беразе Шчары каля вёскі Шылавічы праходзілі археалагічныя раскопкі. У старажытнасці селішчы нашых продкаў знаходзіліся ў асноўным каля водных артэрый. Многія з іх былі выяўлены падчас ранейшых археалагічных разведак. Яны адносяцца да каменнага веку, эпохі неаліту. Раскопкі праводзілі супрацоўнікі Інстытута гісторыі Акадэміі навук і сябры слонімскага гуртка "Юны археолаг".




# У Парэччы ўшанавалі Міхала Валовіча

У нядзелю, 17 чэрвеня, у вёсцы Парэчча Слонімскага раёна ля мемарыяльнага знаку Міхала Валовіча (1806 — 1833) і яго 12 паплечнікаў адбылося ўшанаванне ўдзельнікаў паўстання ў Беларусі ў 1830-1831, 1833 гадах.

Сёлета ўшанаваць Валовіча прыехалі грамадскія актывісты з Баранавіч, Гародні, Бярозаўкі (Лідскі раён), са Слоніма і Жыровіч. Урачыстасць адкрыў сябра Слонімскага згуртавання дэмакратычных сіл Іван Бедка, які прыгадаў трагічны лёс Міхала Валовіча. Пра паўстанні ў Беларусі, пра нацыянальных герояў і сітуацыю ў краіне распавядалі Вадзім Саранчукоў з Гародні, Вітольд Ашурак з Лідскага раёна, Сяргей Чыгрын са Слоніма, Уладзімір Кавальчук з Жыровічаў і іншыя выступоўцы.




Галіна Ярашэвіч і Таццяна Малашчанка з Баранавіч спявалі беларускія патрыятычныя песні.

●*Генадзь Гурскі*

# Наш горад 60 гадоў таму

*Працяг, пачатак на ст. 1.*

Гэтыя фотаздымкі былі зроблены ў 1958 годзе. На іх адлюстраваны наш Слонім 60 гадоў таму. Аўтарам фотаздымкаў з'яўляецца Уладзімір Шундрык (1929 — 2002), якога, на жаль, даўно няма сярод нас.* Уладзімір Шундрык быў па тым часе ўнікальным чалавекам. Ён пісаў вершы і краязнаўчыя артыкулы, друкаваўся ў раённым і абласным друку, працаваў настаўнікам, захапляўся фатаграфіяй. Наведаўшы некалі ў 1990-х гадах Уладзіміра Іванавіча, ён дазволіў са свайго сямейнага альбома ўзяць гэтыя здымкі на памяць. Прайшло шмат часу. Здымкі захаваліся. Ды і нагода з'явілася сёння іх апублікаваць.

●***Сяргей Чыгрын***

**Пра яго гл. наступную публікацыю: Ёрш С. Уладзімір Шундрык // Слонімскі край, 2016, № 9. Кастрычнік. С. 10-11.*



***Чырвонаармейская вуліца, участак на плошчы Леніна.***



***Касцёл св. Андрэя.***



***Каля помніка загінулым савецкім салдатам, вуліца Пушкіна.***



***Скрыжаванне Студэнцкай і Камуністычнай вуліц.***

# Наш горад 60 гадоў таму



***Першамайская вуліца. Справа відаць брама каля касцёла, якая пазней была знішчана, а ў часы незалежнай Беларусі адноўлена.***



***Каля Малога каналу Агінскага.***

# Слонімскі футбол у міжваенны час (1920-1930-я гады)

*Працяг, пачатак на ст. 1.*

Каманда ездзіла ў Вільню, Гродна, Беласток і пра яе ведалі, адметную гульню вайскоўцаў заўважылі. Таму заўзятары шкадавалі, калі ў наступныя гады слонімцы ўжо не заяўляліся на рэгіянальны чэмпіянат, гулялі пераважна ў сваім горадзе.

У 1923-1926 гадах у Слоніме з'яўляліся і іншыя каманды: STS (Слонімскае спартыўнае таварыства), KS Balladyna (зборная дзяржаўнай гімназіі), WKS 80 pp (Вайсковы клуб 80-га пяхотнага палка), KS Albertyn (спартыўны клуб Альбярцін), Kl. Sp. Szkoly Roln. Żyrowice (Szkola Rolnicza, Żyrowice; Спартыўны клуб сельскагаспадарчай школы ў Жыровічах), ŻKS Słonim (Яўрэйскі спартыўны клуб, Слонім). Нам вядомыя прозвішчы асобных футбалістаў, суддзяў, ёсць некалькі фотаздымкаў слонімскіх камандаў. У чацвёртай частцы нарысу будуць асветленыя падзеі 1927-1928 гадоў.




***Афіша футбольных матчаў каманд з Гродна і Беластока, 1920-я гады. Фота: polona.pl. Верагодна, такія плакаты былі і ў Слоніме.***

**1927**

У ліпені 1927 года быў ліквідаваны раскол у польскім футболе. Польская футбольная ліга і Польскі футбольны саюз нарэшце паразумеліся і вырашылі стварыць новы агульны саюз. Здаецца, гэтаму ў той час радаваліся ўсе, хто любіў футбол. Безумоўна, слонімскія футбалісты сачылі за гэтай падзеяй па спартыўнай прэсе. Але самі яны былі далёка ад футбольных цэнтраў. Слонім зноў не быў прадстаўлены сярод удзельнікаў першынства Віленскай акругі.** У класе А там гулялі 6 каманд — адна з Гродна (Cresovia) і пяць з Вільні (Wilja, Pogoń, 1 p.p. leg, Makabi, Ognisko).

У іншых гарадах Заходняй Беларусі знаходзіліся энергічныя людзі, якія спрабавалі развіваць футбол. У чэрвені 1927-га была створана Палеская падакруга Люблінскай акругі футбольнага саюзу. Падакруга ахапіла Брэст, Пінск, Баранавічы, Кобрын і шэраг іншых гарадоў. У Слоніме аднак нічога не мянялася. У той жа Лідзе футбол актыўна папулярызаваўся. На 1927 год спартовы рух быў сканцэнтраваны ў мясцовым Студэнцкім спартовым клубе (відаць, ён існаваў пры гімназіі), пры ім была футбольная секцыя. Лідскія футбалісты не толькі гулялі паміж сабой, але і сустракаліся з камандамі з Ваўкавыска, Маладзечна, Навагрудка і нават Вільні. Ці выязджалі куды слонімцы? Наўрад ці. Відаць, фінансавыя праблемы нікуды не зніклі, і яны адыгрывалі важную ролю. А яшчэ не хапала некалькіх энэргічных энтузіястаў.

Футбольны сезон 1927 года пачаўся ў Слоніме ў пачатку траўня, калі адбыўся матч STS (Słon. T-wo Sport.; Слонімскае спартыўнае таварыства) — ŻKS (Яўрэйскі спартыўны клуб). ŻKS гуляў без чатырох футбалістаў асноўнага складу — Шухтовіча (Szuchtowicza), Касоўскага (Kossowskiego), Губара (Gubara) і Вігдаровіча (Wigdorowicza). Іх замянілі рэзервісты. STS святкаваў перамогу з лікам 2:1, лепшым у яе шэрагах быў Дружылоўскі (Drużyłowski). У саперніка лепшымі на полі былі Равіцкі I, Равіцкі II (так абазначалі ў справаздачах гульцоў з аднолькавым прозвішчам) і Каплінскі (Kapliński), які забіў гол прэстыжу. Судзіў паядынак паручнік Пятрушка ці Пятрашка (Pietruszko, Pietraszko) — у тагачасных публікацыях яго прозвішча падаецца па рознаму. Ён судзіў некаторыя футбольныя матчы ў Слоніме і ў 1926 годзе.

ŻKS хацеў рэабілітавацца і таму адгукнуўся на прапанову футбалістаў з сельскагаспадарчай школы з Жыровічаў. Матч прайшоў у сярэдзіне траўня. Але яўрэйская каманда зноў прайграла (праўда, невядома, ці яна гуляла ў моцным ці аслабленым складзе): Szkoła rolnicza (Żyrowice) — ŻKS (Słonim) — 4:1. "У Жыровічаў дасканалая

атака”, — чытаем у караценьскай справаздачы. Цікава, што суддзёй быў усё той жа Пятрашка (Путрушка).

У канцы траўня ŻKS паспрабаваў узяць у жыровіцкіх хлопцаў рэванш. У іх атрымаўся цікавы матч. Відаць, яўрэйская каманда сабрала ўсіх сваіх лепшых гульцоў, бо Szkoła rolnicza (Żyrowice) узмацнілася двума гульцамі з WKS — паручнікамі Ваўжыняклем (Wawrzyniaklem) і… Пятрашкам (Пятрушкам). На гэты раз апошні не судзіў, а вырашыў сам згуляць. Такое сумяшчэнне ў той час было нярэдкім.

Матч скончыўся баявой нічыёй — 3:3. У першым тайме жыровіцкая каманда мела перавагу і штурмавала браму ŻKS, а вось пад канец паядынка сітуацыя змянілася і слонімцы змаглі зраўняць лік. У справаздачы гэтую нічыю называлі “значным поспехам” ŻKS. У яе шэрагах адзначыліся брамнік Вайнштэйн (Вайнштайн, Wajnsztajn), “галоўная сіла каманды”, і Балкавец (Bałkowiec).

Увогуле сезон 1927 года праходзіў пад знакам ŻKS. Каманда правяла найбольш матчаў. Хлопцы жылі футболам і адчувалі, што ў іх атрымліваецца ўсё лепш і лепш. У сярэдзіне жніўня ў Слоніме прайшоў матч ŻKS — Siła, які скончыўся перамогай першай каманды — 3:0. У ŻKS найлепшымі гульцамі былі Равіцкі II (Rawicki II) і Каплінскі. У пераможаных лепшым быў Палец (Palec). Матч судзіў нехта пан Любоўскі (Lubowski).

Siła — гэта можа быць каманда яўрэйскага спартыўнага клуба Kraft, назва якога і перакладаецца як Сіла. У Слоніме ён існаваў з 1926-га.

Пасля доўгачаканай перамогі ŻKS вырашыў згуляць з гімназістамі з каманды Balladyna. Матч прайшоў у Слоніме 20 жніўня і яго судзіў паручнік Пятрашка (Пятрушка). Яўрэйская каманда мела відавочную перавагу і цалкам заслужана выйграла з лікам 3:1. Два галы забіў Равіцкі II, адзін забіў Закройскі (Zakrojski). У гімназістаў з пенальці вызначыўся Бакавец (Bakowiec). У справаздачы чытаем, што судзействам усе былі задаволеныя.

Футбалісты ŻKS у эйфарыі ад перамог зрабілі агульны здымак (ён змешчаны на першай старонцы гэтага нумару) і даслалі яго ў варшаўскі тыднёвік “Przegląd Sportowy” (“Спартыўны агляд”). І яго там надрукавалі! Можна ўявіць, колькі шчасця было ў слонімцаў! Відаць, гэта першае фота слонімскай футбольнай каманды, якое з’явілася ў перыядычным друку. Рэдакцыя зрабіла да фота наступны подпіс: “Футбалісты Ж.К.С. СЛОНІМ могуць пахваліцца шэрагам сваіх поспехаў”. Але так сталася, што той нумар выйшаў з друку пасля балючага паражэння ад вайскоўцаў.

У сярэдзіне верасня ў Слоніме прайшоў матч каманд WKS 80 pp і ŻKS. Вайскоўцы выйгралі — 3:2. У WKS найлепшымі на полі былі Пятрашка (Пятрушка) і Паўліцкі (Pawlicki), у сапернікаў — брамнік Вайнштэйн і Равіцкі II. Судзіў паядынак пан Грыгарэвіч (Grygorewicz), які нам вядомы яшчэ па матчах 1926 года. У нейкі момант ён згубіў кантроль над сітуацыяй. У справаздачы чытаем: “Матч быў перарваны за 17 хвілін да канца з-за бойкі, якая пачалася на полі”. Гэта была не першая і не апошняя бойка падчас матчаў слонімскіх футбольных камандаў.

**1928**

Вясной-восенню футбольнае жыццё кіпела ў Пінску, Лунінцы, Брэсце, Гродне (там нават з’явілася каманда літоўскіх палітычных эмігрантаў), Беластоку, Ваўкавыску, Кобрыне, Баранавічах, Стаўбцах. Тыя ж Баранавічы ўдзельнічалі ў першынстве Віленскай акругі, Слонім — не. Амаль не было паездак на таварыскія матчы ў іншыя гарады. “Застой” працягваўся…

Адзіным пазітывам стала з’яўленне праекту пабудовы ў Слоніме стадыёна. На свята 3 траўня спартыўныя спаборніцтвы адбыліся “на пляцы за кашарамі (казармамі)”. Там жа яны праходзілі і восенню. 22 лістапада 1928-га газета “Zycie Nowogródzkie” паведаміла пра з’яўленне ў Слоніме вуліцы 11 Лістапада, “якая ідзе ад вуліцы Жыровіцкай да вуліцы Шасейнай уздоўж праектаванага ста-



# Слонімскі футбол…

дыёна”. Відаць, яго пабудова ў тым годзе нават не пачалася.

Цэнтральная спартыўная польская прэса мала пісала пра футбол у Слоніме, няшмат інфармацыі і ў рэгіянальных выданнях. Таму мы не ведаем пра ўсе матчы, якія праходзілі на Слонімшчыне. Але найбольш важныя паядынкі ўсё ж былі зафіксаваныя. Шмат тут залежыла ад наяўнасці карэспандэнта. Варшаўская газета “Przegląd Sportowy” ў 1928 годзе такога мела. Гэта быў нейкі пан “P. Lub.”.

Футбольны сезон-1928 стартаваў у нашым горадзе 19 траўня. У 16:30 пачаўся матч ŻKS Słonim — Kłub Sportovy Żyrowice (відавочна, што гэта каманда сельскагаспадарчай школы). Магчыма, яўрэйская каманда не сабрала свой мацнейшы склад, бо пацярпела разгромнае паражэнне — 0:9! У кароткай справаздачы падкрэслівалася, што “гульня праводзілася паводле ўсіх спартыўных правілаў” і што ў жыровіцкай каманды “выбітная абарона”. На жаль, пра матч гэта ўся інфармацыя.

27 траўня Kłub Sportovy Żyrowice атрымаў запрашэнне прыехаць на футбольны матч у Ваўкавыск. Ці паехалі жыровіцкія хлопцы, пакуль невядома.

**”СК”, № 10(20), 2017 г., № 1(23), № 2(24), 2018 г.*

***Праўда, у адной з кніг польскага даследчыка Яна Гаксіньскага сцвярджаецца, што ў 1927-м у “клясе В” Віленскай акругі Слонім быў прадстаўлены двума камандамі — STS, ŻKS. Але гэта пакуль не знайшло пацверджання.*

*Працяг у наступным нумары*

**●*Сяргей Ёрш***

# Фарфоравы кубак з выяваю Анатоля Іверса






Сын беларускага паэта і ўдзельніка Другой сусветнай вайны Анатоля Іверса (Івана Міско, 1912 — 1999) Канстанцін Міско перадаў для Слонімскага раённага краязнаўчага музея імя Язэпа Стаброўскага ўнікальны экспанат — фарфоравы кубак са сподачкам. На кубку адлюстраваны партрэт Анатоля Іверса і тэкст: “Удзельніку Вялікай Айчыннай вайны Івана Дарафеевічу Міско на ўспамін аб суровых гадах. М. Ціхан”.

Гэты фарфоравы кубак і сподак былі выраблены на Дулёўскім фарфоравым заводзе Маскоўскай вобласці ў 1970-х гадах. Сябра паэта, зямляк і сувязны “Групы 12” у гады вайны М. Ціхан, пасля вайны працаваў на Дулёўскай фарфоравай фабрыцы. Аднойчы ён завітаў у родны Слонім, дзе жыў паэт Анатоль Іверс, і прывёз яму ў падарунак гэты кубак з тэкстам на беларускай мове і фотаздымкам. Да самай смерці паэта кубак са сподачкам захоўваўся ў Анатоля Іверса, а пасля смерці ветэрана вайны і паэта яго зберагаў сын. Цяпер падарунак з выяваю паэта знайшоў сваё месца ў музеі.

**●*СЧ***

# Пра “Слонімскі тыднёвік”

Сярод польскамоўных перыёдыкаў міжваеннага часу, якія выдаваліся ў нашым горадзе, заўважны след пакінуў “Слонімскі тыднёвік” (“Tygodnik Słonimski”). Праўда, праіснаваў ён толькі некалькі месяцаў — рэдакцыя не здолела “раскруціць” гэты праект у горадзе, у якім у асноўным жылі яўрэі, беларусы, татары. Многім польскім чыноўнікам, настаўнікам, вайскоўцам, паліцэйскім, прысланым “з цэнтральнай Польшчы”, мала была цікавая мясцовая гісторыя і тагачаснае жыццё. Нярэдка яны працавалі/служылі некалькі гадоў і іх пераводзілі ў іншы горад. Чыталі гэтыя людзі варшаўскую ці віленскую прэсу. З розных прычын не было вялікай падтрымкі выданню і з боку слонімцаў-католікаў, якія лічылі сябе палякамі.

Нядаўна на сайце polona.pl з’явіліся адразу тры нумары “Слонімскага тыднёвіка” за 1937 год і кожны жадаючы іх там можа “пагартаць”. Гэта — № 2 ад 21 лютага, № 3 ад 28 лютага і № 5 ад 14 сакавіка. Найбольш вядомы трэці нумар, яго мы выкарыстоўвалі з Сяргеем Чыгрыном падчас падрыхтоўкі кнігі пра гісторыю слонімскай перыёдыкі.* Аднак самы цікавы нумар ад 21 лю-



Cena numeru 15 groszy. Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

TYGODNIK SŁONIMSKI

Pismo poświęcone sprawom ziemi słonimskiej.

Rok I. Słonim, niedziela 21 lutego 1937 r. Nr. 2.

Karta z przeszłości Słonima

Słonim, jedno z najstarszych miast na terenach wschodnich Rzeczypospolitej — był w swojej dalekiej przeszłości historycznej te- wiekopomną Unię Lubelską. Od chwili złączenia Litwy z Polską oraz w związku z przyjęciem chrztu przenikają do Słonima zwyczaje lowie polscy otaczają miasto szczególną pieczą. Król Zygmunt August obdarował Słonim licznymi gruntami, oraz wielkim lasem, stano-

тага. У ім змешчаны ананімны гістарычны артыкул “Дадзеныя з мінулага Слоніма”. “Размяшчэнне найстарэйшых могілак і [археалагічныя] раскопкі сведчаць пра тое, што горад быў узведзены на правым забалочаным беразе ракі Шчара (цяперашняе Замосце), — чытаем у згаданым артыкуле. — На выбар тэрыторыі праўдападобна паўплывалі ўмовы лепшай абароны горада, які знаходзіўся на разгалінаванні рэк, быў акружаны балотамі”.

Менавіта такой версіі прытрымліваўся археолаг і краязнаўца Язэп Стаброўскі. Артыкул напісаў альбо ён сам, альбо нехта з супрацоўнікаў рэдакцыі (напрыклад, адказны рэдактар Казімір Гарасімовіч) пры яго дапамозе.

Выданне прапагандавала польскі патрыятызм. Але на яго старонках знайшлося месца для мясцовай хронікі і рэкламы, для матэрыялаў, у якіх падымаліся мясцовыя праблемы.

Вядомыя толькі пяць нумароў “Слонімскага тыднёвіка”. Зусім магчыма, што ў сакавіку 1937 года ён спыніў свой выхад. Так “памірала” шмат польскамоўных выданняў, якія не прыжываліся ў нашым горадзе.

●*Сяргей Ёрш*

**Ёрш С., Чыгрын С. Гісторыя перыядычнага друку Слонімшчыны (1916 — 2016). — Мінск, 2016. С. 13.*

# Каб берагла людская памяць

У 1989 годзе Слонімскі раённы савет таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры выпусціў на рускай мове набор фотаздымкаў з тэкстамі “Людская память хранит” пра асобныя старонкі гісторыі Слонімшчыны.

Сярод здымкаў — старая паштоўка Слоніма падчас Першай сусветнай вайны, фрагмент мапы баявых дзеянняў войск Заходняга фронту ў раёне Слоніма і Баранавіч 24-26 чэрвеня 1941 года, здымак герба Слоніма, былы будынак раённага Дома культуры, дзе, як напісана, 9 снежня 1918 года адбыўся Першы павятовы з’езд саветаў, рэпрадукцыя паштоўкі былой Раманаўскай вуліцы (цяпер вуліца Пушкіна), здымак помніка воінам, якія загінулі падчас Другой сусветнай вайны, здымак мемарыяльнага знаку на месцы, дзе загінулі савецкі разведчык К. Гнідаш і яго радыстка К. Давідзюк, помнік-танк, Успенскі сабор у Жыровічах, мемарыяльны знак “Палявы шпіталь”, абеліск-помнік лётчыкам на тэрыторыі СШ № 4 г. Слоніма і здымак Сцяпана Жука са Слонімскай дыфензівы. Усе гэтыя здымкі вядомыя. А тады ў савецкі час яны часта друкаваліся на старонках розных выданняў.




Буклет гэты распаўсюджваўся па школах і ўстановах культуры. А наклад яго быў ажно 1000 асобнікаў.

●*Сяргей Чыгрын*

# Немцы ў Слоніме, 1915-1916 гады



“Слонімскі край” працягвае публікаваць вельмі рэдкія здымкі, зробленыя падчас Першай сусветнай вайны.* Кайзераўскія войскі занялі Слонім у верасні 1915 года. Наш горад пад акупацыяй знаходзіўся 40 месяцаў. Спачатку няпроста было слонімцам прывыкаць да новай улады, а немцам — уладкоўваць у горадзе свой побыт. Тым не менш, жыццё наладжвалася, а значыць быў час для адпачынку, для жартаў і часу, каб сфатаграфавацца і зрабіць здымкі ў горадзе над Шчарай, а таксама ў Альбярціне.

Немцы ў Слоніме займалі пустыя памяшканні, раскватэроўваліся надзейна і надоўга. Па гэтых фотаздымках бачна, дзе жаўнеры спыніліся, дзе праводзілі свае шыхтаванні і які ў іх быў настрой. Кіравала Слонімам нямецкая ваенная камендатура. Наш горад у той час наведвала шмат вялікіх генералаў, якія правяралі надзейнасць ваеннага тылу і сустракаліся з жаўнерамі, афіцэрамі.

Некалькі ўнікальных фотаздымкаў знаходжання немцаў у Слоніме ў 1915-1916 гадах прапаную чытачам “Слонімскага краю”. Усе здымкі друкуюцца ўпершыню.

●***Сяргей Чыгрын***

**Гл. папярэднія публікацыі: Прынц Баварыі на Слонімшчыне, 1916 год // Слонімскі край, 2017, № 11. Лістапад. С. 1, 3-5; Вуліцы і будынкі Слоніма, 1915-1917 гады // Слонімскі край, 2017, № 12. Снежань. С. 1, 3-6; Касцёл святога Андрэя ў Слоніме, 1916 год // Слонімскі край, 2018, № 1. Студзень. С. 1, 3-5; Зіма ў Слоніме // Слонімскі край, 2018, № 2. Люты. С. 1, 4-7.*



# Зімой 1940 года са Слоніма за мяжу ўцякла сям’я Браўнаў

Сёлета “СК” распавядаў пра гісторыю ўцёкаў зімой 1940 года з СССР у акупаваную немцамі Польшчу некалькіх сем’яў са Слоніма.* Яны нейкім чынам даведаліся пра запланаваную савецкімі ўладамі масавую дэпартацыю насельніцтва і рызыкнулі збегчы. У іх атрымалася. З 5-6 сем’яў уцекачоў мы ведаем пра Равінскіх і Урліхаў. Нядаўна ўдалося адшукаць успаміны Войцеха Браўна (Wojciech Braun), які распавёў пра ўцёкі са Слоніма таксама ў пачатку 1940-га і прыблізна па такім жа маршруце яго сям’і. Іх аўдыёзапіс даступны на сайце польскай бібліятэкі імя Ігната Дамейкі ў Буэнас-Айрэсе.**



Войцех Браўн нарадзіўся ў 1930 годзе ў Навагрудку, дзе яго бацька, Гіляры Антоні Браўн, быў чыноўнікам, інспектаваў грамадскае будаўніцтва ў Навагрудскім ваяводстве (Слонім уваходзіў у яго склад). Перад Другой сусветнай вайной Браўны жылі ў нашым горадзе ў элітным раёне (“урадавай калоніі”) паміж цяперашнімі вуліцамі Карла Маркса, Даватара, Шасейнай і 17 Верасня. Гіляры Антоні ў верасні 1939-га быў прызваны ў польскае войска, пасля заканчэння баявых дзеянняў вярнуўся да сям’і ў Слонім. Яго арыштавалі ў студзені 1940-га і асудзілі на 8 гадоў лагераў. Пасля гэтага маці Войцеха разам з дзецьмі і рашылася на нелегальную вандроўку за мяжу да сваякоў мужа. Вось што ўспамінае Войцех Браўн, якому ў лютым 1940 года было няпоўных 10 гадоў:



Слонімскі край, №2(24)

**Уцёкі групы слонімцаў з СССР зімой 1940 года**

Пра гэтую проста неверагодную гісторыю распавёў былы слонімец Збігнеў Равінскі (Zbigniew Rawiński). У пачатку 1940 года некалькі дзясяткаў жыхароў Слоніма рызыкнулі збегчы з Савецкага Саюза. Справа была зімой, калі стаялі мацнейшыя маразы. Але гэта не спыніла людзей, у якіх з сабой былі малыя дзеці. Уцёкі адбыліся перад масавай дэпартацыяй насельніцтва ў лютым 1940-га, якую праводзілі савецкія ўлады. Тады ў Сібір высылалі пераважна палякаў, цэлымі сем’ямі, але было рэпрэсавана і нямала беларусаў. Слонімцы ўцякалі ад бальшавікоў яшчэ восенню 1939

*“У ноч, калі арыштавалі бацьку, ён сказаў маці: “Назаўтра вы з дзецьмі едзьце да бацькоў”. Гэта значыць са Слоніма ў Варшаву, а адтуль — у Новы Двор Мазавецкі. І маці так і зрабіла. На наступны дзень мы былі на станцыі ў Слоніме, селі ў цягнік, поўны людзей…”.*

Браўны заехалі на Беласточчыну. Далей яны ішлі “ад вёскі да вёскі”. Вандроўка зацягнулася на тыдзень. Мясцовыя жыхары ім дапамагалі: давалі начлег, кармілі, паказвалі дарогу. У памежнай зоне бальшавікі шукалі такіх уцекачоў і хадзілі па хатах, распытвалі вяскоўцаў, ці ёсць чужыя. Браўнам пашчасціла — іх незаўважылі (Войцех стаяў за дзвярыма, у якія зазірнуў чырвонаармеец).

З апошняй вёскі ўвечары іх падвезлі да лесу, праз які яны мусілі ісці да мяжы. Пераход атрымаўся ўдалы. А раніцай сям’ю Браўнаў затрымаў нямецкі патруль.

Падчас нямецкай акупацыі ўцекачы са Слоніма жылі ў Новым Двары Мазавецкім. У 1943-м туды прыйшла вестка з Ерусаліма, што Гіляры Антоні жывы і змог пакінуць СССР разам з польскай арміяй Андэрса. Калі вайна скончылася, ён даслаў жонцы ў Польшчу законспіраваны ліст, у якім паведаміў, што застанецца на Захадзе. Браўны рашыліся на яшчэ адзін нелегальны пераход — з Польшчы ў Чэхію, а адтуль — у Аўстрыю. Пасля была Італія, дзе сям’я нарэшце аб’ядналася. Войцеха Браўна лёс у далейшым закінуў аж у далёкую Аргентыну.



Фота: http://biblioteka.domeyki.archiwa.org

**Войцех Браўн.**

●***Генадзь Гурскі***

**Гурскі Г. Уцёкі групы слонімцаў з СССР зімой 1940 года // Слонімскі край, 2018, № 2(24). Люты. С. 3.*

***http://biblioteka.domeyki.archiwa.org*

# “Таямнічы аб’ект” над касцёлам св. Андрэя

Вядомы слонімскі фатограф пачатку XX стагоддзя Барыс Вайнштэйн пакінуў нам адну загадку. Добра вядомы і шмат разоў друкаваўся яго здымак, зроблены напэрэдадні Першай сусветнай вайны. Вайнштэйн здымаў Слонім з пажарнай вежы (яго фотамайстэрня была на Панятоўскага, 8, цяпер гэта пачатак вуліцы Пушкіна*). На фота бачым Спаса-Праабражэнскі сабор і касцёл св. Андрэя. Калі яго павялічыць, то можна разглядзець, што над апошнім храмам вісіць нейкі “аб’ект”.

Каб гэта быў звычайны фотаздымак, то можна было дапусціць выпадковасць, нейкі тэхнічны брак. Але ж гэта паштоўка, якую перад выпускам, відаць, праглядаў не адзін Вайнштэйн. Дарэчы, яна вядомая ў двух варыянтах — з надпісам у адзін радок і ў два радкі. Надпіс выкананы на нямецкай мове, паколькі паштоўка выйшла ў 1915-1919 гадах, калі горад быў пад нямецкай акупацыяй.

“Аб’ект” над касцёлам нагадвае насякомае, падвешанае на нітцы (магчыма, хтосьці “пабачыць” там і “неапазнаны лятальны аб’ект”). Няўжо Барыс Вайнштэйн зрабіў гэты “калаж” спецыяльна? Але з якой мэтай? На жаль, шанцы даведацца праўду мінімальныя.

●***Генадзь Гурскі***

**Чыгрын С. Слонімскія фатографы пачатку XX стагоддзя // Слонімскі край, 2017, № 4(14). Красавік. С. 4-5.*

“Слонімскі край” можна чытаць на сайце беларускай інтэрнэт-бібліятэкі “Камунікат”: http://kamunikat.org/



***Над касцёлам можна пабачыць нейкі незразумелы аб’ект. Злева на здымку нешта падобнае на слуп дыму.***






# Афіша, выдадзеная ў Слоніме 90 гадоў таму




На сайце polona.pl нядаўна была змешчана выява афішы, выдадзенай у Слоніме ў друкарні Гурвіча вясной 1928 года. Яна рэкламавала сустрэчу ў нядзелю, 21 красавіка, у Народным доме (цяпер на яго месцы знаходзіцца тэатр) з дэпутатам (паслом) польскага Сейму ад Навагрудскай акругі Канстанцінам Рдултоўскім. Падкрэслівалася, што ўваход на яе бясплатны.

У Слонім Рдултоўскі прыехаў з Баранавічаў, дзе праводзіў падобнае палітычнае мерапрыемства. У нашым горадзе ён паспеў пабываць у настаўніцкай семінарыі, дзе цікавіўся праблемамі навучальнай установы.*



Канстанцін Рдултоўскі (Konstanty Rdułtowski, 1880 — 1953) — польскі палітык. Быў дэпутатам Сейму (1928-1930), сенатарам (1930-1938), займаў адказныя пасады ў Вільні, Навагрудку, Баранавічах, Стаўбцах. У пачатку кастрычніка 1939-га арыштаваны ў Баранавічах, асуджаны на 8 гадоў лагероў, адпраўлены ў Казахстан. Трапіў на Захад з польскай арміяй Андэрса. Жыў у Вялікабрытаніі, дзе і памёр. ●*СЁ*

**Замовы на атрыманне электроннай версіі “СК” дасылайце на нашу пошту: slonimskikraj@gmail.com*

**Życie Nowogródzkie, 1928, № 77, 25 красавіка.*

# Жыровічы на паштоўцы міжваеннага часу

Гэтую паштоўку дзесьці ў 1930 годзе выдаў Залман Любоўскі, уладальнік кнігарні ў Слоніме на Парад най, 12 (цяпер — Першамайская). На ёй бачым Жыровіцкую святыню і навакольныя будынкі. Надпіс жа на паштоўцы дзіўны: “Слонім. Сельскагаспадарчая школа”. Любоўскі, відаць, не надта ўважліва адносіўся да сваёй друкаванай прадукцыі, калі дапускаў такія памылкі. Нехта слушна ад рукі выправіў Слонім на Жыровічы.




***polona.pl***

“СК” ужо неаднаразова згадваў, што ў 1924-1939 гадах у Жыровічах дзейнічала дзяржаўная сярэдняя сельскагаспадарча-лясная школа.* Яна займала адзін з мураваных будынкаў былога базыльянскага кляштару. Адсюль і надпіс на паштоўцы. ●*СЁ*

**Ёрш С. У Жыровічах і Слоніме выходзілі падручнікі па батаніцы // Слонімскі край, 1916, № 3. Красавік. С. 13; СЁ. Сельскагаспадарчая школа ў Грыбаве // Слонімскі край, 2017, № 7(17). Ліпень. С. 10.*

**Замовы на атрыманне электроннай версіі “СК” дасылайце на нашу пошту: slonimskikraj@gmail.com**

# Суд за гарадскі лес

*Працяг, пачатак у № 4 і 5 за 2018 год.*

Спрэчкі паміж Слонімскім мяшчанскім хрысціянскім таварыствам і Слонімскай гарадской управай ішлі за права карыстання лесам за ракой Ісай у раёне вёскі Якімавічы. Ён быў уласнасцю горада, а мяшчане з XVII стагоддзя мелі льготы. У 1905 годзе суд у Гродне падтрымаў мяшчан. Але ўправа з гэтым не хацела пагадзіцца (льготы, якія мелі мяшчане, не дазвалялі атрымаць дадатковыя грошы ў гарадскі бюджэт), была пададзена апеляцыйная скарга.

Віленская судовая палата па грамадзянскім дэпартаменце 16 студзеня 1909 года прыняла рашэнне на карысць управы. Яна палічыла аргументы чыноўнікаў пераканаўчымі (што пазоў у суд быў пададзены ад "неіснуючага" таварыства, а значыць яго прадстаўнікі могуць выступаць толькі ад свайго імя). Мяшчане не маглі з гэтым пагадзіцца, была пададзена касацыйная скарга. "Слонімскую справу" разглядаў у Санкт-Пецярбургу Сенат Расійскай імперыі. Быў выдадзены ўказ № 11232 ад 5 снежня 1909-га, якім адмянялася рашэнне Віленскай судовай палаты. У ім падкрэслівалася: яна няправільна прызнала, што таварыства мяшчан-хрысціян не мае правоў юрыдычнай асобы і не можа выступіць у судзе.

Такім чынам справу зноў трэба было разглядаць у Вільні. 13 сакавіка 1910 года Віленская судовая палата па грамадзянскім дэпартаменце ўжо прызнала аргументы прадстаўніка слонімскай гарадской управы "неістотнымі". У той жа час "выявіліся" парушэнні ўправай міравога пагаднення з мяшчанамі. І судовая палата зацвердзіла рашэнне Гродзенскага акруговага суда ад 5 траўня 1905 года.

Відаць, управа спрабавала рабіць яшчэ нейкія захады. Бо невыпадкова ўпаўнаважаны Слонімскага мяшчанскага хрысціянскага таварыства Іван Александровіч у пачатку вясны 1912 года рабіў копіі дакументаў справы ў архіве Гродзенскага акруговага суда.

У 1914 годзе пачалася Першая сусветная вайна, праз пяць гадоў — польска-савецкая. У 1921-м Слонімшчына апынулася ў складзе Польшчы. Паколькі суды ў 1902-1910 гадах праходзілі ва ўжо неіснуючай дзяржаве (Расійскай імперыі), ва ўправы з'явіўся шанец перагледзець ранейшыя рашэнні ў справе гарадскога лесу.

●***Сяргей Ёрш***

*Заканчэнне ў наступным нумары.*






надлежащими подписями /. Съ подлиннымъ вѣрно : П. д.
п. Секретаря / подпись неразборчива/ .

13

Съ подлиннымъ вѣрно:

Архиваріусъ Гродненскаго Окр. Суда

1912 года Марта 7 дня. Настоящая копія выдана повѣренному Слонимскаго Мѣщанскаго Христіанскаго общества, присяжному повѣренному Ивану Іеронимовичу Александровичу, вслѣдствіе его прошенія. Гербовый сборъ и канцелярскія пошлины уплачены

# З калекцыі слонімца Міхаіла Рылко

Шмат гадоў былы журналіст і краязнавец Міхаіл Іванавіч Рылко (1934 — 2012) са Слоніма марыў адкрыць свой уласны музей-майстэрню “Беларускае мястэчка”. Музей, праўда, у яго ў Слоніме ўжо быў і экскурсантаў у ім хапала. Але экспанаты музея знаходзіліся ў яго асабістым доме на вуліцы Карла Маркса. А асветнік па духу Міхаіл Рылко марыў, каб яму ў Слоніме выдаткавалі спецыяльнае памяшканне пад музей, далі б нейкі акладзік і чалавек шчыра працаваў бы, праводзіў экскурсіі, у тым ліку для гасцей нашага горада. І яны глядзелі б на тое, што за сваё жыццё сабраў гэты калекцыянер прадметаў быту мінулых гадоў і стагоддзяў.

Але гады ішлі, а слонімцу ніхто так і не дапамог ці не жадаў дапамагчы: ні мясцовая ўлада, ні аблвыканкам, ні Міністэрства культуры. Быў гатовы музей, дзе паглядзець, шчыра скажу, было што. Падобнай сабранай вялікай калекцыі ў Беларусі я раней нідзе не бачыў.

Але за некалькі гадоў да смерці Міхаіл Іванавіч стаў паціху прадаваць свае каштоўнасці, дарыць і нават выкідваць. Ён здаў на металалом дзясяткі старых прасаў. Мяне гэта здзівіла і я завітаў неяк да Міхаіла Іванавіча, каб даведацца, ці праўда, што ён развітаўся са старымі прасамі. “Сапраўды, некаторыя, не вельмі якасныя, пашкоджаныя прасы я здаў на металалом, але лепшыя, рэдкія і каштоўныя прасы ў маёй калекцыі яшчэ засталіся. Так што не хвалюйцеся”, — супакоіў тады мяне Міхаіл Іванавіч.

У адным з пакояў яго дома на стале я ўбачыў прыгожую кнігу ”Рэнесанс беларускага мястэчка”, якую напісаў сам Міхаіл Рылко. Па словах аўтара, кніга выйшла накладам некалькі асобнікаў, бо не хапіла грошай. Гэта кніга, як казаў тады аўтар, пра сябе, пра нас, пра месца ў жыцці і гісторыі.




***Міхаіл Рылко***

У музеі Міхаіла Рылко чаго толькі не было! І іконы, творы жывапісу, фарфору, медалі, значкі, чаканкі, самавары, сувеніры з дрэва і шкла, музычныя інструменты, прасы, гадзіннікі, розныя прыборы, вагі, клямкі, кнігі, паштоўкі, куфэркі і г. д. і г. д. Убачыў я там і скрыпку са смычком у футляры, пазначаным друкарскай этыкеткай “Страдывары”. Гэтая скрыпка была знойдзена ў вёсцы Вензавец Дзятлаўскага раёна. Доўгі час пад яе дэкам захоўваўся заваражальны надпіс “Страдэвары”, абазначаны друкаванымі літарамі. Вядома, што гэта не сапраўднае кляймо цудатворца ў музыцы. Але, ва ўсякім разе, можна было ўявіць сабе, як мог выглядаць сапраўдны Страдэвары.

Сярод шчыпковых музычных інструментаў бачыў у музеі Рылко мандаліну з касцянымі разбянымі накладкамі на грыфе і на механізме нацягвання струнаў, інкруставаную перламутравымі рамонкамі вакол слухавога галасніка. Яна была выраблена ў Варшаве больш за 110 гадоў таму і завезена ў Беларусь. Была ў музеі і фізгармонія, якая гучыць з дапамогай нагнятальнага паветра. Зроблена яна была ў Санкт-Пецярбургу ў 1898 годзе. Здзіўляў і кішэнны патэфон, а таксама паходны грамафон з выведзенай звонку трубкай. Ён быў выраблены даўно на фабрыцы ў Маскве.

Убачыў я і насценны гадзіннік з тачонай насадкай і завяршэннем на корпусе з чырвонага дрэва. Механізм на гірах, маятнік, спружына боя, фарфоравы цыферблат з секунднай стрэлкай і надпісам Ганс Бекер. Гадзіннік быў знойдзены ў Міры. Яму было шмат гадоў. Убачыў я там і мапу Сібірскай чыгункі 1916 года, мапу Баранавіцкай і Брэсцкай абласцей 1942 года, глобус настольны пад рэдакцыяй варшаўскага прафесара Ромера, 1927 года і іншыя прадметы.

У музеі Міхаіла Рылко захоўвалася шмат розных



фотаздымкаў, дакументаў, даведак, пісьмаў, пасведчанняў. Напрыклад, быў ваенны білет радавога Мікіты Якаўчыка, выдадзены ў 1906 годзе слонімскім павятовым начальнікам. Была пашпартная кніжка настаўніцы Ламашоўскага народнага вучылішча Слонімскага павета Надзеі Чарэшка. Кніжка была выдадзена ў траўні 1913 года. А таксама дамова на карыстанне зямлёй з пячаткаю і за подпісам Палонскага — слонімскага старасты, 1914 года і шмат іншых дакументаў...

З Міхаілам Іванавічам Рылко можна было гутарыць доўга і пра ўсё, і бясконца. А калі яго не стала, зніклі і каштоўнасці з яго хаты-музея. Нешта забрала з сабой дачка ў Польшчу, нешта было прададзена асобным людзям, а таксама шмат экспанатаў купіў музей у Нясвіжы. Калі я бываў у яго доме, ён мне дазваляў усё фатаграфаваць. Я нарабіў шмат фотаздымкаў з былога музея-майстэрні “Беларускае мястэчка” Міхаіла Рылко. А гэта, фактычна, і ўсё, што нам засталося ў спадчыну ад яго калекцыі. Некаторыя фотаздымкі экспанатаў калекцыі Міхаіла Рылко прапаную чытачам “СК”.

●*Сяргей Чыгрын*

# Былая калекцыя Міхаіла Рылко на фотаздымках

# Антоні Густаў Леапольд — музыкант аркестра Агінскага



У аркестры Міхала Казіміра Агінскага пры яго оперным тэатры ў Слоніме быў музыкантам Антоні Густаў Леапольд (1754 — 1830), прадстаўнік польскашведскага шляхецкага роду. Анджэй Цеханавецкі згадвае яго ў сваёй манаграфіі, але называе толькі “Леапольдам” і не падае датаў жыцця.[1] Звесткі ж пра яго знайшліся ў публікацыі польскіх даследчыкаў.[2]

У Слонім Антоні Густаў прыехаў летам 1776 года са Швецыі, куды ў 1664-м з Польшчы прыехаў яго прадзед-лекар.[3] На службе ў гетмана Агінскага ён быў з перапынкамі. Звязана гэта было найхутчэй з аплатай працы, якая мянялася — альбо з-за эканоміі, альбо з-за адсутнасці на месцы Міхала Казіміра Агінскага.[4] У канцы 1770-х Леапольд выехаў у Дрэздэн, дзе пазнаёміўся з Марыянай Шмідт (1758-1836), з якой узяў шлюб. У іх нарадзіўся сын Казімір Антоні. Летам 1782-га ўсе яны разам прыехалі ў Слонім, праз два гады былі сведкамі візіту караля Станіслава Аўгуста.

Антоні Густаў Леапольд зноў працаваў у аркестры Агінскага. Калі ў 1776-1778 гг. ён штомесяц атрымліваў па 10 дукатаў, то ў 1782-1784 гг. — па 4 дукаты, у 1785-м — 11. Цеханавецкі не выключаў, што ўжо ў 1785-м Леапольд з сям’ёй мог выехаць са Слоніма.[5] Аднак па іншых меркаваннях музыкант мог знаходзіцца ў горадзе аж да 1795 года, калі выехаў у Варшаву.[6] Вядома, што ў Антоні Густава і Марыяны было два сыны і тры дачкі. І калі музыкант і яго жонка адчувалі сябе ў Польшчы замежнікамі, дык іх дзеці ўжо ўсведамлялі сябе палякамі.

Сын музыканта Ксаверый Леапольд (1791 — 1812) мог нарадзіцца ў Слоніме. Ён стаў вайскоўцам. У 16-гадовым узросце ўступіў у польскае войска, якое ваявала ў Еўропе на баку Напалеона супраць аўстрыйскай і рускай армій. У 1812 годзе, ужо ў ранзе паручніка, удзельнічаў у паходзе на Маскву. Загінуў 28 лістапада падчас пераправы войскаў Напалеона праз Бярэзіну. Брат Ксаверыя Казімір Антоні (1781 — 1855) служыў у польскім войску, таксама з 1807-га. У 1812 годзе быў паручнікам і ўдзельнічаў у паходзе на Маскву. Яму пашанцавала выжыць. З вайсковай службай Казімір Антоні развітаўся ў 1815-м, калі быў капітанам. Ажаніўся, стварыў сям’ю, жыў у Польшчы.[7] Цяпер там жывуць яго нашчадкі, захоўваюць яго шаблю і мундзір.[8]



*Казімір Антоні Леапольд*

***●Генадзь Гурскі***


*[1] Цеханавецкі А. Міхал Казімір Агінскі і яго “сядзіба музаў” у Слоніме. — Мінск, 2006. С. 98, 163.*

*[2] Andrysiak E., Walczak K. Józef Leopold z Zrepiszewa i jego biblioteka (przyczynek do dziejów księgozbiorów ziemiańskich) // Biuletyn Szadkowski (Łódź), 2007, T. 7. C. 77-91.*

*[3] Leopold A. A. Rzepiszew — zarys dziejów // Biuletyn Szadkowski (Łódź), 2002, T. 2. C. 41.*

*[4] Міхал Казімір Агінскі і яго “сядзіба музаў” у Слоніме. С. 98-99.*

*[5] Тамсама. С. 163.*

*[6] Biuletyn Szadkowski (Łódź), 2007, T. 7. C. 78.*

*[7] Antoni Leopold: człowiek i dzieło. — Warszawa, 2010. C. 181-182.*

*[8] Biuletyn Szadkowski, 2002, T. 2. C. 41.*



**“Слонімскі край”** — гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар нумару ***Сяргей Ёрш***.

Наш адрас: **slonimskikraj@gmail.com**

Спасылка на “СК” пры передруку абавязковая.